

*Не пакідайце ж мовы нашай беларускай, каб не ўмёрлі!*
*ФРАНЦІШАК БАГУШЭВІЧ*

# НАША СЛОВА




Газета выходзіць з сакавіка 1990 года

№ 25 (1436) 19 ЧЭРВЕНЯ 2019 г.

## Ушанаванне памяці ўдзельнікаў Мілавідскай бітвы 1863 года

Сёлета спаўняецца 156 год Мілавідскай бітве, якая была прызнана адной з найважнейшых ваенных аперацый 1863 года.



Восьмага чэрвеня пад патранажам старшыні Таварыства беларускай мовы імя Францішка Скарыны, дэпутата Палаты прадстаўнікоў Алены Анісім адбылося ўшанаванне памяці паўстанцаў-удзельнікаў Мілавідскай бітвы 1863 года ля помнікаў пад Мілавідамі: малітва з айцом Яўгенам Маліноўскім, ускладанне вянкоў і кветак да капліцы і памятных знакаў, сімвалічна развеяна зямля, узятая з надаўна знойдзеных магіл паўстанцаў у Вільні.



Пасля, на сядзібе Баранавіцкай арганізацыі Таварыства беларускай мовы ў вёсцы Русіно Баранавіцкага раёна выступіў гісторык і краязнавец Міхась Бернат, распавёўшы пра ролю і значнасць асобы Кастуся Каліноўскага і кіраванага ім паўстання ў працэсе фармавання беларускай нацыі.



Творчую частку імпрэзы аздобілі бард з Ліды Сяргей Чарняк, паэт Аляксей Белы, дуэт Галіны Ліс і Сяргея Карповіча.

***З гісторыі Мілавідскай бітвы***

*Падчас нацыянальна-вызвольнага паўстання 1863 года каля станцыі Мілавіды, на якой грпаваўся адзін з паўстанцкіх аддзелаў, сканцэнтраваліся значныя сілы паўстанцаў (усяго каля 800 чалавек). Камандаванне аб'яднанымі сіламі паўстанцаў ўзяў на сябе А. Лянкевіч. 20 траўня 1863 года ў паўстанцкі лагер прыбыў Канстанцін Каліноўскі. 22 траўня ля Мілавідаў паўстанцы ўступілі ў бой з рэгулярнымі часткамі расейскага войска (5 рот салдатаў з 4 гарматамі). Бой доўжыўся некалькі гадзін. Царскія войскі не змаглі ўзяць лагер і былі вымушаны адступіць з вялікімі стратамі. На наступныя суткі, ноччу, паўстанцы непрыкметна пакінулі лагер. Дзякуючы гэтай перамозе ўдалося прыцягнуць на бок паўстанцаў новыя сілы.*

***Наш кар.***

ISSN 2073-7033



## Памянулі Міхала Валовіча пад бел-чырвона-белымі сцягамі



Сёлета 18 чэрвеня споўнілася 113 гадоў з дня нараджэння беларускага нацыянальнага героя, удзельніка паўстання 1830-1831 гадоў Міхала Валовіча, які па загадзе гарадзенскага губернатара генерал-маёра Мураўёва быў схоплены і павешаны 2 жніўня 1833 года ў Гародні каля Скідзельскай заставы.

У нядзелю, 16 чэрвеня, слонімцы, а таксама госці з іншых рэгіёнаў Беларусі, наведалі вёску Парэчча Слонімскага раёна, дзе каля вясковых могілкаў знаходзіцца мемарыяльны знак, прысвечаны Міхалу Валовічу і яго паплечнікам, якія загінулі за незалежную Беларусь у барацьбе з Расейскай імперыяй. Кіраўнік Слонімскай арганізацыі БХД Іван Бедка згадаў пра Міхала Валовіча і яго сяброў. У прыватнасці ён расказаў пра пачатак паўстання на Беларусі, спыніўся на біяграфічных звестках пра Міхала Валовіча.

Палітык з Менска Вячаслаў Сіўчык і сустаршыня руху салідарнасці "Разам" Алена Талстых адзначылі тое, што сёння, як ніколі, трэба ўшаноўваць нашых знакамітых людзей, якія змагаліся за незалежнасць Айчыны. Госці таксама падзякавалі слонімцам за памяць пра Міхала Валовіча. Нагадаем, што Міхал Валовіч нарадзіўся ў маёнтку Парэчча на Слонімшчыне ў сям'і слонімскага падкаморага са старадаўняга беларускага шляхецкага роду Валовічаў. Скончыў Віленскі ўніверсітэт, быў блізкі да тайных таварыстваў філаматаў і філарэтаў. Міхал Валовіч прымаў удзел у паўстанні 1830-1831 гадоў. Пасля разгрому паўстання эмігрыраваў у Францыю. Праз два гады зноў вярнуўся на Беларусь з мэтай узняць паўстанне супраць рускага царызму і абавясціць Беларусь дэмакратычнай рэспублікай. У 1833 годзе ён арганізаваў на Слонімшчыне паўстанцкі аддзел з некалькі дзесяткаў чалавек. Супраць яго Мураўёў-вешальнік кінуў 10 тысяч расейскіх салдат. У траўні аддзел Валовіча быў разбіты, а кіраўнік арыштаваны. Яго прывезлі ў Гародню і першы допыт вёў сам Мураўёў, які чакаў ад Валовіча сенсацыйных звестак пра яго аддзел. Але гэтага не адбылося. Змагар за нашу Бацькаўшчыну быў пакараны. Праз трыццаць гадоў тым жа Мураўёвым і ў такім жа 26-гадовым узросце, але не ў Гародні, а ў Вільні быў павешаны Кастусь Каліноўскі, прадаўжальнік справы Валовіча і кіраўнік нацыянальна-вызвольнага руху беларускага народа супраць расійскага зняволення. Падчас ушанавання да мемарыяльнага знака былі ўскладзены кветкі і запалены зніччы.




***Аксана Шпак,***
***Беларускае Радыё Рацыя,***
***Слонімскі раён.***
Фота аўтара.

*Да 30-годдзя ТБМ*

# У сугучнасці інтэлектуальнай і духоўнай адраджаць роднае, бацькоўскае і Божае




У сувязі з 30-годдзем Таварыства беларускай мовы, якое набліжаецца, сябар Рады ТБМ пробашч Чырвонага касцёла ў Менску, ксёндз-канонік Уладзіслаў Завальнюк адзначыў:

- Шаноўныя сёстры і браты! Немагчыма валодаць моваю і не мець дачынення да духоўнага. Нашы продкі захавалі мову і перадалі нам, настаўляючы дарогай да Бога і роднай моваю. У нашых храмах стагодзямі расце мова. Мова суправаджае святыя сакраманты.У сакраманце хросту, калі дзіця яшчэ не разумее, яму перадаецца Божае дабраслаўленне на роднай мове на жыццёвую дарогу.

Дзеці пазнаюць малітву і волю Божую, рыхтуюцца да першай Святой Камуніі. Таінства шлюбу адкрывае абавязак мужу і жонцы быць моцным саюзам на ўсё жыццё. У моцным шчаслівым саюзе будуць добра выхаваныя дзеці. Кожную нядзелю і свята дзеці прыходзяць, моляцца і разважаюць на роднай мове. Гэта наша духоўная школа. Калі мы праводзім чалавека ў апошнюю дарогу, над труною бацькі і маці гучыць малітва, спеў на роднай мове. Родная мова - калыска нашых душ.

Мы павінны не толькі захаваць мову для суадносін з людзьмі і цывільнага жыцця, але з мовай развіваць духоўнае жыццё, якое кранае сумленне. Гэта памяць продкаў, адказнасць перад будучыняй. Духоўнасць яднае нас і яшчэ больш узвялічвае веліч роднай мовы. Будзем адкрытыя на даброты духоўныя, якія чэрпаем у нашых храмах. Перад усімі выклікамі і пагрозамі будзем верыць у Божую дапамогу!

Мова не мае юбілеяў, яна трывае ген у ген у стагодзях. Няхай 30-годдзе ТБМ дапамагае нам сабрацца разам і ў сугучнасці інтэлектуальнай і духоўнай адраджаць роднае, бацькоўскае і Божае! Няхай Дух Святы напаўняе і ажыўляе сем'і беларусаў, натхняе на справы дабра, на развіццё духоўнай культуры.

9 чэрвеня ксёндз Уладзіслаў Завальнюк адзначыў 45-ю гадавіну свайго служэння ў касцёле. 45 гадоў таму ў Рызе ён распачаў сваю першую святую імшу.

У 1984 г. ксёндз У. Завальнюк быў пераведзены ў Беларусь, ён аднавіў і адкрыў шэраг каталіцкіх парафіяў у розных мястэчках краіны.

У.М. Завальнюк мае ступені доктара тэалогіі і кандыдата гістарычных навук, ён - аўтар больш за 50 кніг, актыўны папулярызатар беларускай мовы ў касцёльным жыцці.

Ён з'яўляецца членам Камісіі па перакладзе літургічных тэкстаў і рэлігійнай літаратуры пры Канферэнцыі каталіцкіх біскупаў Беларусі, суаўтарам слоўніка сучаснай беларускай мовы і энцыклапедычнага слоўніка рэлігійнай лексікі беларускай мовы. Кс. Уладзіслаў быў стваральнікам рэлігійнай перадачы "Голас душы" на Беларускім радыё, якую вёў з 1993 да 2000 год.

У хуткім часе выйдзе новая кніга, прысвечаная Францішку Скарыну, якую падрыхтаваў кс. У. Завальнюк. *"Важна бачыць нашага суайчынніка ў святле яго веры, каб ён быў для нас вядомы не толькі як вучоны, філосаф, першадрукар, але каб была бачна яго роля ў касцёле і ў царкве"*,- адзначыў аўтар.

***Гутарыла Эла Дзвінская.***

# "Я зразумеў, што за беларускую мову трэба змагацца"



Да 30-годдзя Таварыства беларускай мовы імя Ф. Скарыны мы звярнуліся з кароткім апытаннем да ганаровых сяброў ТБМ з просьбай узгадаць гады дзейнасці ў Таварыстве. Першы рэдактар газеты "Наша слова", публіцыст, пісьменнік і драматург Эрнест Ялугін на пытанне, што значыць для яго сяброўства ў ТБМ, адказаў:

- Пераход цалкам на беларускую мову. Да гэтага ў мяне пераважала тэндэнцыя пісаць паруску. У 1991 годзе Алег Трусаў прапанаваў мне стаць галоўным рэдактарам газеты "Наша слова". Да мяне гэта быў бюлетэнь, была вялікая адказнасць,каб стварыць сапраўдную газету, але я пагадзіўся і падабраў штат актыўных журналістаў. Я ўвайшоў у склад Сакратарыята ТБМ, давялося вельмі многа папрацаваць. У той час я пачаў знаёміцца з гісторыяй дзеячаў БНР і зразумеў, што за беларускую мову трэба змагацца.

Пасля вайны я вучыўся ў школе ў вёсцы Бель. Пасля пераезду з бацькамі ў Крычаў перайшоў у школу імя К. Маркса, якая была рускамоўнай, а беларуская мова выкладалася толькі два разы на тыдзень. Але настаўніца была вельмі разумнай, прыгожай і аўтарытэтнай, таму было імкненне вывучаць сваю мову. Я браў у бібліятэцы часопісы і кнігі на беларускай мове, першыя вершы напісаў па-беларуску, рэдагаваў насценную газету. Пасля 10-га класа я ўдзельчаў у рэдакцыі раённага радыёвяшчання і чытаў у эфір літаратурныя творы. Па-беларуску давялося пісаць, працуючы адказным сакратаром Крычаўскай раённай газеты. У "Знамя юности" я рыхтаваў матэрыялы па-руску. Таму сяброўства ў ТБМ і праца на пасадзе рэдактара газеты "Наша слова" дапамаглі мне глыбей асэнсаваць ролю беларускай мовы ў жыцці народа і ў літаратурным працэсе.

***Гутарыла Э. Дзвінская, фота аўтара.***

На здымку: Эрнест Ялугін.

# Пераклады дакументаў на беларускую мову маюць тую ж юрыдычную сілу, што і дакументы на рускай мове


МІНІСТЭРСТВА ЖЫЛЛЁВА-КАМУНАЛЬНАЙ ГАСПАДАРКІ РЭСПУБЛІКІ БЕЛАРУСЬ
МІНЖЫЛКАМГАС
вул. Берсана, 16, 220050, г. Мінск
тэл. (017) 200-31-85, факс (017) 200-87-08

МИНИСТЕРСТВО ЖИЛИЩНО-КОММУНАЛЬНОГО ХОЗЯЙСТВА РЕСПУБЛИКИ БЕЛАРУСЬ
МИНЖИЛКОМХОЗ
ул. Берсона, 16, 220050, г. Минск
тел. (017) 200-31-85, факс (017) 200-87-08

10.05.2019 № 04-01-15/366
На № ________ ад ________

**Варанцу М. А.**
**вул. Косаўскі тракт, 118-56**
**г. Слонім**
**Гродзенская вобласць**

**Аб разглядзе звароту**

**Паважаны Міхаіл Адамавіч!**

Міністэрства жыллёва-камунальнай гаспадаркі Рэспублікі Беларусь (далей - Мінжылкамгас) разгледзела Ваш зварот, які паступіў з Савета Міністраў Рэспублікі Беларусь.

Пастановай Савета Міністраў Рэспублікі Беларусь ад 27.01.2009 № 99 "Аб мерах па рэалізацыі Закона Рэспублікі Беларусь "Аб абароне правоў спажыўцоў жыллёва-камунальных паслуг" (далей пастанова № 99) зацверджаны на рускай мове тыпавыя дагаворы на асноўныя жыллёва-камунальныя паслугі.

Згодна з пунктам 4 артыкула 396 Грамадзянскага кодэкса Рэспублікі Беларусь (далей ГК) тыпавая форма дагавора, зацверджаная нарматыўным прававым актам, з'яўляецца абавязковай для яго бакоў. Разам з тым у дагавор магчыма ўнесці дадатковыя ўмовы, якія не будуць супярэчыць нормам заканадаўства.

Акрамя таго, артыкулам 402 ГК устаноўлена, што дагавор лічыцца заключаным, калі паміж бакамі дасягнута пагадненне па ўсіх істотных умовах дагавора. Пры гэтым істотнымі з'яўляюцца, у тым ліку, усе тыя ўмовы, адносна якіх па заяве аднаго з бакоў павінна быць дасягнута пагадненне.

Такім чынам, калі пры заключэнні дагавора заяўнік, як адзін з бакоў гэтага дагавора, заяўляе аб неабходнасці дасягнення пагаднення наконт мовы выкладання гэтага дагавора, гэтая ўмова становіцца істотнай і дагавор не будзе заключаным пакуль не будзе дасягнута ўзаемапрымальнае пагадненне наконт яго ў адпаведнасці з прынцыпамі грамадзянскага заканадаўства.

Разам з тым пераклад дагавора на адну з дзяржаўных моў не можа разглядацца як змяненне істотных умоў дагавора, змешчаных у зацверджанай тыпавой форме.

Такое ж меркаванне таксама было выказана Міністэрствам юстыцыі Рэспублікі Беларусь.

Такім чынам, пераклад дагавора на адну з дзяржаўных моў не можа разглядацца як змяненне істотных умоў дагавора, устаноўленых у зацверджанай тыпавой форме.

У сувязі з гэтым, перакладзеныя Слонімскім гарадскім унітарным прадпрыемствам жыллёва-камунальнай гаспадаркі дагаворы на асноўныя жыллёва-камунальныя паслугі, якія аказваюцца гэтым прадпрыемствам, на беларускую мову, без змянення істотных умоў гэтых дагавораў, маюць такую ж юрыдычную моц, як і тыпавыя дагаворы на асноўныя жыллёва-камунальныя паслугі, зацверджаныя на рускай мове пастановай № 99.

Таксама паведамляем, што Мінжылкамгасам падрыхтаваны змяненнні ў Закон Рэспублікі Беларусь "Аб абароне правоў спажыўцоў жыллёва-камунальных паслуг", якімі прадугледжана магчымасць спажыўцом самастойна выбраць на якой мове заключыць дагавор.

У адпаведнасці з артыкулам 20 Закона Рэспублікі Беларусь "Аб зваротах грамадзян і юрыдычных асоб" адказ на зварот можа быць абскарджаны ў парадку, які ўстаноўлены заканадаўствам.

Міністр А.А. Церахаў.

## Шаноўныя сябры ТБМ! Шаноўныя кіраўнікі арганізацый ТБМ!

У Лідзе у адпаведнасці з рашэннем Рады ТБМ пачынаецца праца над чарговым выпускам "Летапісу ТБМ". Брашура ахопіць перыяд з 1 ліпеня 2014 г. па 30 чэрвеня 2019 г.

На сёння ў рэдакцыі "Нашага слова" ёсць матэрыялы з Магілёва, Полацка і Гародні.

Усе астатнія, хто нічога не прысылаў ці прысылаў раней, але вельмі даўно, маюць даслаць (паўтарыць).

Тэрмін дасылу матэрыялаў да 1 жніўня.

E-mail: *naszaslowa@tut.by.*

231282, Ліда-2, п/с 7.

Рэдактар выпуску, намеснік старшыні ТБМ С. Суднік.





*Каб і робаты размаўлялі па-беларуску*

# Свята беларускай мовы, гісторыі і культуры ў летніку "Тэхнасіцi"



11 чэрвеня ў дзіцячым летніку "Тэхнасіці" на базе Лідскага раённага цэнтра тэхнічнай творчасці прайшло свята беларускай мовы, гісторыі і культуры. На працягу святочнага дня былі праведзены мерапрыемствы і конкурсы:

- "Акадэмія вынаходніка" ў рамках конкурсу "Формула разумнага лета" (на пляцоўцы "Насустрач адкрыццям" (навучальна-даследчая чыннасць), **дзе робаты размаўлялі па-беларуску;**
- лепшае сэлфі (#ЗЛЖсэлфі) у рамках рэспубліканскага творчага конкурсу сярод падлеткаў на стварэнне лепшага паста ў сацыяльных сетках;
- інфармацыйная гадзіна "Беларусь паспяховая", дзе распавялі пра выбітных беларусаў;
- гульнявая пляцоўка "Кола беларускіх гульняў";
- творчы конкурс "Ганаруся табой, Беларусь";
- конкурс сачыненняў "Чаму я люблю Беларусь";
- музычная гадзіна "Вянок беларускіх песень" разам з бардам Сяржуком Чарняком;
- вечаровае вогнішча "Беларускія вячоркі";
- дыскатэка "Беларускі рок-карагод".









Гасцямі свята былі запрошаны рыцарскі клуб гістарычнай рэканструкцыі "Залаты леў" і сябры Лідскай суполкі Таварыства беларускай мовы (ТБМ).

Рыцары распавялі дзецям пра традыцыі рыцарства і шляхецтва, паказалі простыя прыёмы фехтавання на мячах, аздабляла дзею сапраўдная беларуская дуда.

Сябры суполкі ТБМ Ліды распавялі дзецям пра славутыя імёны Бацькаўшчыны- з нагоды 150 гадоў з дня народзінаў Ядвігіна Ш., беларускага пісьменніка; 100 гадоў з дня народзінаў Васіля Хомчанкі, беларускага пісьменніка; 105 гадоў з дня народзінаў Аркадзя Куляшова, паэта, перакладніка, сцэнарыста, народнага паэта Беларусі; 115 гадоў з дня народзінаў Паўлюка Труса, беларускага пісьменніка; 120 гадоў з дня народзінаў Міхася Лынькова, беларускага пісьменніка.

У сувязі з тым, што ў Лідзе неўзабаве будзек пастаўлены помнік Вялікаму князю Гедзіміну, старшыня Лідскай гарадской арганізацыі ТБМ Станіслаў Суднік расказаў пра асобу вялікага князя Гедзіміна і зачытаў адрыўкі з паэмы "Давыд Гарадзенскі", дзе апісваюцца падзеі ў часы Гедзіміна.

Намеснік старшыні Лідскай гарадской арганізацыі ТБМ Сяргей Чарняк разам з дзецьмі выканаў некалькі беларускіх песень, у тым ліку, як адзначыў сп. Сяргей, старажытную беларускую песню "Зорка Венера". Сапраўды гэтаму тэксту ўжо больш за сто гадоў.

*Наш кар.*

# Мова - душа народа





Дзень 13 чэрвеня ў дзіцячым аздараўленчым лагеры "ЛІДАТУР" на базе СШ №11 г. Ліды прайшоў пад дэвізам "Жыву ў Беларусі, і тым ганаруся". Усе рэжымныя моманты праводзіліся на беларускай мове, выхаванцы чатырох атрадаў прымалі актыўны ўдзел у акцыі "Гавары са мной па - беларуску". Хлопчыкі і дзяўчынкі пазнаёміліся з беларускімі народнымі танцамі - "Лявоніха", "Крыжачком", "Янкай-полькай", а затым развучылі іх падчас майстар-класа "Танцуем па-беларуску"



Магчымасць паказаць сябе дзеці атрымалі і падчас караоке-шоў "100 песень для Беларусі". Прыняць удзел маглі ўсе ахвотныя. Самымі актыўнымі былі выхаванцы чацвёртага атрада.

Вядома, павагу і любоў да роднай мовы можна выхоўваць не толькі з дапамогай музыкі і танцу. Немагчыма не ўспомніць пра паэзію. Творы беларускіх класікаў - майстроў слова - нікога не пакінуць абыякавым. Дзецям прапанавалі прачытаць



любімы верш на беларускай мове падчас інтэлектуальнай гадзіны "Час чытаць на роднай мове". Часцей за ўсё гучалі творы Янкі Купалы, Максіма Багдановіча, Якуба Коласа. Мерапрыемства было арганізавана на базе школьнай бібліятэкі.

А пазней прайшла спартландыя "Дужы, спрытны беларус". Загадзя былі падрыхтаваны шматлікія конкурсы, удзел у якіх прынёс дзецям многа станоўчых эмоцый.

На завяршэнне гэтага цудоўнага дня быў арганізаваны флэшмоб "Мы любім родную мову".

Многія выхаванцы распавялі, што дзень у лагеры прайшоў хутка і быў вельмі насычаным. Галоўнае, што ён прайшоў недарэмна, бо дзеці сёння пачулі шмат новых беларускіх слоў і атрымалі асалоду ад прыгажосці, чысціні і мілагучнасці роднай мовы. Хочацца верыць, што з цягам часу ўсё больш і больш яны будуць размаўляць на роднай мове. Мова - душа народа. Пакуль жыве мова, жыве і народ.

*Нам. дырэктара лагера*
***Барэйша Л.М.***,
*навучэнка Лідскага каледжа*
***Кулеш Кацярына.***

# Геральдычныя вянок Гарадзеншчыны

Сёлета наша Гарадзенская вобласць адзначае 75 гадоў з дня заснавання. З гэтай нагоды бібліятэкі папаўняюць свае фонды краязнаўчымі кніжнымі навінкамі, якія выклікаюць цікавасць у чытачоў. А, каб новая кніга хутчэй знайшла дарогу да шырокай аўдыторыі, у бібліятэках ладзяцца змястоўныя выставы і літаратурныя экспазіцыі, дзе прадстаўлена інфармацыя пра гісторыю, культуру, знакамітых асоб, турыстычныя аб'екты і славутасці рэгіёна.

Спалучыць геаграфію і геральдыку Навагрудская раённая бібліятэка паспрабавала ў інтэрактыўнай карце "Гродзеншчына гістарычная". У выніку атрымаўся візуальны рэсурс, які дапамагае падаваць новы матэрыял жыва і займальна. З картай бібліятэкары зладзілі для падлеткаў інтэрактыўную праграму "Геральдычны вянок Гродзеншчыны", прысвечаную геральдычнай спадчыне і сучаснасці нашай вобласці. Калі казаць пра сучасныя гербы вобласці, то іх адрознівае яркая выражанае імкненне адлюстраваць гістарычнае мінулае населенага пункта, яго традыцыі і спадчыну. Дарэчы, тэрытарыяльныя гербы падзяляюць на дзве катэгорыі. Да найбольш значнай групы адносяцца гістарычныя гербы. У 16-18 стст. яны былі дараваны беларускім гарадам вялікімі князямі літоўскімі і каралямі польскімі як абавязковы атрыбут гарадскога самакіравання. У гярбоўніку Гарадзеншчыны асабліва ганаровае месца займаюць гістарычныя гербы Вялікай Бераставіцы, Ваўкавыска, Ліды, Навагрудка, Слоніма, Ашмян, Шчучына. Напрыклад, Навагрудку герб дараваў у 1595 годзе вялікі князь літоўскі і кароль польскі Жыгімонт ІІІ. На працягу стагоддзяў выява Святога Арханёла Міхаіла мяняла свой выгляд. Сёння мы можам бачыць выяву Святога Міхаіла Арханёла ў чырвоным полі на зялёным ускрайку з крыламі блакітнага колеру, убранага ў чорнае адзенне, з мячом у правай руцэ і вагамі - у левай. Выява Арханёла вельмі папулярная ў Навагрудку, карыстаецца вялікай пашанай, а з мінулага года выкарыстоўваецца яшчэ і ў якасці афіцыйнага гарадскога брэнду - невялікія бетонныя і каваныя скульптуры Арханёла Міхаіла ўпрыгожваюць знакавыя месцы нашага горада. Усяго іх 8, а адна з 4 каваных фігур знаходзіцца на будынку бібліятэкі. Такога кшталту цікавыя гісторыі з паралелямі ў дзень сучасны ёсць, амаль, ў кожнага герба і ў кожнага населенага пункта. Найбольш распаўсюджаныя ў геральдыцы гербавыя сюжэты: рэлігійны, ідэя абароны Радзімы, ідэя прыроднага багацця. Так, у гербе Гародні бачым аленя з залатым крыжам паміж рагамі. З ім звязаная легенда аб сустрэчы гэтай прыгожай жывёлы з паляўнічым Губертам. У Гародні Святы Губерт шанаваўся гараджанамі як прыклад маральнага самаўдасканалення і як заступнік паляўнічых. 21 студзеня 1801 года была ўтворана Гарадзенская губерня. У хуткім часе, 11 ліпеня 1802-га, быў зацверджаны і герб губерні. Ім, як гэта не дзіўна, аказаўся не алень святога Гумберта, а зусім іншая выява цара беларускіх лясоў зубра. У аснову сучаснага герба вобласці пакладзены гістарычны герб Гарадзенскай губерні, атрыманы ў 1878 годзе па Указу расійскага імператара Аляксандра ІІ. Сучасны герб мае горад Свіслач. Гэта адзін з самых маладых геральдычных сімвалаў раённага значэння ў Гарадзенскай вобласці. Ён быў зацверджаны ў 2007 годзе. Уся гісторыя горада цесна звязана з Белавежскай пушчай, дзе сапраўдным гаспадаром заўжды быў зубр, выява якога заняла верхняе, найбольш ганаровае месца ў гербе.






Пры канструяванні сучаснага герба Зельвы за аснову і адпраўны момант таксама ўзялі гістарычнае мінулае, калі мястэчка было вельмі заможным месцам, дзе праходзілі кірмашы па продажы буйной жывёлы, у тым ліку і коней. У гэтыя дні горад станавіўся сапраўдным цэнтрам грамадскага жыцця, паколькі, акрамя ўласна кірмашоў, тут працавалі шматлікія шынкі, корчмы, пастаялыя двары. Залаты колер на гербе падкрэслівае заможнасць, геральдычная поза ўзыходзячага каня ўказвае на асноўны прадмет гандлю.

Геральдыка - гэта не толькі гістарычная дысцыпліна, але і навука сімвалаў і алегорый. Герб - гэта тое, што ляжыць на паверхні, мы яго бачым і ўспрымаем, але разам з тым без падрыхтоўкі прачытаць яго правільна доволі цяжка. Дапаможа ў гэтай справе спецыяльная літаратура, або як у выпадку з нашай бібліятэкай - краязнаўчы інтэрактыў.

Кожны з 17 раёнаў нашай вобласці прадстаўлены індывідуальным гербам свайго адміністрацыйна-тэрытатыяльнага цэнтра. У пачатку зладжанай бібліятэкарамі інтэрактыўнай праграмы дзеці атрымалі імправізаваныя контурныя карты, дзе патрэбна было правільна пазначыць геаграфічнае месцазнаходжанне раёнаў Гарадзенскай вобласці. Па сутнасці атрымаўся сапраўдны геаграфічны экзамен. Затым прайшоў відовішчны геральдычны парад, які прадставіў аўдыторыі гербы вобласці. Па чарзе ўдзельнікі суадносілі гербы і геаграфічныя кропкі на спецыяльнай інтэрактыўнай карце. Заданне аказалася не такім простым, як магло падацца на першы погляд. Між іншым, і не кожны дарослы беспамылкова справіцца з такой краязнаўчай задачай. Раёнаў 17, а калі б тое ж самае зрабіць з 118 раёнамі ўсёй Беларусі? Вядома, больш за ўсё правільных адказаў навагрудчан атрымаў Навагрудскі раён, наконт астатніх вызначаліся ўсе разам. Але прыемна, што добраахвотнікаў выйсці, "па-школьнаму" кажучы, да дошкі хапала. Заданне было цікавым і займальным для ўсіх.



Інтэрактыўная карта атрымалася своеасаблівай гісторыка-краязнаўчай настолкай з геральдычным акцэнтам. Такая форма дазваляе непасрэдна ўзаемадзейнічаць адзін з адным, актыўна вывучаць геаграфію і гісторыю сваёй краіны і нават, няхай і завочна, але падарожнічаць па Гарадзеншчыне. Гульня ператвараецца ў цікавы адукацыйны інтэрактыў, а як паказвае ўласная бібліятэчная практыка, усе распрацаваныя настольныя гульні - літаратурныя, або краязнаўчыя, цікавыя для ўсіх узростаў.




Спадзяёмся, што такія інтэрактыўныя праграмы, якія распрацоўваюцца ў Навагрудскай раённай бібліятэцы, падштурхоўваюць да набыцця больш шырокіх і грунтоўных ведаў пра сваю радзіму, натхняюць на сапраўдныя падарожжы па краіне.

***Святлана Чубрык***, *галоўны бібліёграф ДУК "Навагрудская раённая бібліятэка".*

# У Наваградку хочуць адабраць у дзяцей іх будынак




У Наваградскім выканкаме разглядаецца пытанне аб выдварэнні дзіцячай і дарослай гарадской бібліятэкі, мастацкай школы і музычных класаў з іх спрадвечнага будынка па Міцкевіча - 20, у якім яны знаходзяцца ўжо 30 гадоў. Хочуць адабраць іх будынак, распіхаць па непрыдатных закутках па горадзе.

Хто паклаў вока на будынак дзяцей і бібліятэкі? Дзяржаўная арганізацыя пад назвай БТІ, бо ім нібы мала месца ў сваім будынку.

У гэтай справе, старшыня Таварыства беларускай мовы ў Наваградку Зміцер Солтан пабываў на прыёме ў намесніцы старшыні выканкама Каралько Святланы Мікалаеўны. У адказ на простыя пытанні, чаму так адбываецца, навошта БТІ хоча выкінуць бібліятэку і дзяцей з іх будынка, навошта гэта выканкаму, чаму не спыталі людзей, чаму выдзелены непрыдатныя новыя памяшканні, чаму такая спешка і іншыя пытанні, Каралько Святлана Мікалаеўна пачала крычаць на старшыню ТБМ, пагражаць яму аховай і пратаколам, калі ён не перастане задаваць пытанні і не пакіне кабінет.

Такія неінтэлегентныя паводзіны чыноўніцы, якія парушаюць этыку дзяржаўнага службоўца, з'яўляюцца непрымальнымі. Але стала відавочна, што справа цёмная і нас хочуць заблытаць. Намесніца старшыні Каралько, вельмі нервова рэагуе на пытанне вынасу бібліятэкі. Ёсць інфармацыя, што падобным чынам яна "размаўляла" з іншымі людзьмі, якія прыходзілі да яе ў гэтай справе. Як вядома, БТІ паклала вока на гэты будынак даўно, але папярэдні старшыня выканкама іх адфутболіў. Зараз, карыстаючыся тым, што новы старшыня яшчэ не ў курсе ўсіх спраў, чыноўнікі вырашылі пад шумок "урваць" жаданы кавалак гістарычнай нерухомасці.

Зараз ТБМ робіць пэўныя захады, каб прадухіліць вынас бібліятэкі і мастацкай школы з іх будынка. Рашэнне яшчэ не прынятае, але разглядаецца ў выканкаме на вышэйшым узроўні.

У любым выпадку ТБМ "Узвышша" стала на абарону бібліятэкі і будзе дзейнічаць вельмі актыўна і паслядоўна, калі рашэнне будзе прынятае не ў інтарэсах культуры і дзяцей.

*Крыніца: Фэйсбук - Таварыства беларускай мовы імя Ф. Скарыны ў Наваградку, суполка "Узвышша".*

# На Зыбіцкай адкрыўся новы бар Kalinoŭski. На сценах - цытаты з "Мужыцкай праўды"

У Менску на Зыбіцкай, 4 адкрыўся новы бар **Kalinoŭski**. Там пабываў журналіст Франак Вячорка, застаўся задаволеным і напісаў вялікі пост у фэйсбуку.

*"Завітаў у новы модны патрыятычны бар на Зыбіцкай - Kalinoŭski Bar. Кусаю локці, што зрабіў гэта не я. Прыкладна 12 гадоў таму мы з моладдзю ладзілі кампанію па папулярызацыі Каліноўскага і стварэння з яго сімвалу барацьбы за Свабоду і Незалежнасць, які натхняў бы і аб'ядноўваў. І тады мы гаварылі, маўляў, было б добра мець у Менску такі падпольны паб, дзе ўваход толькі па паролі: "Каго любіш? Люблю Беларусь".*

*Паб адкрылі, і не падпольны, а ў самым сэрцы Зыбіцкай, на месцы былой бургернай. І адкрыў яго прадпрымальнік Аляксей Славута, за што яму рэспект і падабайкі.*







*Дызайн шыкоўны. На сценах - цытаты з "Мужыцкай праўды", асабліва важная: "Не народ для ўрада, а ўрад - для народа". Лагатып - Ŭ, то бок у нескладовае лацінкай. Мяню называецца - "Кактэльная праўда". Напоі - аўтарскія настойкі і кактэйлі з беларускімі назвамі месяцаў. Паўсюль адсылкі да асобы Каліноўскага і году паўстання - "1863". Усё аздабленне - па-беларуску. Дэталі - таксама прадуманыя: напрыклад, на сталах стаяць каласкі ў вазачцы. Мабыць, паўстанцкія.*

*З гэтым барам - Зыбіцкая зноў набыла для мяне сэнс. Давайце падтрымаем добрую ініцыятыву, дзяліцеся пастом і прыходзьце".*

Як паведамілі Франку супрацоўнікі, інтэр'ер яны прыдумалі сваімі сіламі, без запрашэння прафесійнага дызайнера.

***NN.by.***

***Фота: Франка Вячоркі.***

## Выйшаў з друку, дваццаты, юбілейны, нумар літаратурна-мастацкага часопіса "Верасень"

Паэзія ў выданні прадстаўлена вершамі Наты Драздовай, Янкі Каліноўскага, Кацярыны Глухоўскай, Анхелы Эспіносы Руіс, Марыны Ількевіч, Уладзіміра Шыпілы, Лізаветы Дамінікі Панамаровай, Алеся Мацулевіча, Дар'і Дарошка і Міколы Лешчуна.

Раздзел "Проза" складаюць апавяданні Міколы Адама, Сяргея Календы, Юльяны Пятрэнка, Наталлі Бучынскай, Марыі Сцяфанавай, Лявона Валасюка і Вінцэся Мудрова.

У раздзеле "Пераклады" друкуюцца вершы вядомай балгарскай паэткі Элкі Няголавай.

Раздзел "Крытыка" адкрывае "марсіянскае" эсэ Васіля Дранько-Майсюка, прысвечанае Паўлюку Трусу. Пра "значнае" і "выпадковае" ў жыцці творцы - гітарка Эдуарда Акуліна з музыкам і літаратарам Юрыем Несцярэнкам. Уражаннямі ад наведвання "Новага свету" дзеліцца ў сваіх "штатных нататках" Уладзімір Сіўчыкаў. Да юбілею Анатоля Сыса Алесь Бяляцкі змяшчае "Сем лістоў" паэта, адрасаваных ягоным блізкім сваякам. Артыкулам "Планіда Сяргегея Панізьніка" Тамара Аўсяннікава віншуе вядомага паэта з 60-годдзем творчага шляху. Сяргей Чыгрын знаёміць чытачоў з невядомымі старонкамі жыцця братоў Хлябцэвічаў. Яна Будовіч аналізуе праблемы творчага росту ў паэзіі




Янкі Каліноўскага. Эдуард Дубянецкі разглядае паэтычны сусвет маладой паэткі Галіны Сіўчанка. Пад назвай "Пасыльная з ніадкуль" друкуецца рэцэнзія Анатоля Трафімчыка на паэтычны зборнік Анхелы Эспіносы Руіс...

Мастацкае афармленне нумара падрыхтавалі Дар'я Бунеева і Валерыя Праслава. Ілюстрацыі - Анастасіі Чадзій.

Пытайце "Верасень" № 20 на сядзібе ТБМ (Румянцава,13). Чытайце "Верасень" на сайце: Kamunikat.org. Дасылайце свае творы ў "Верасень" на адрас: verasenchas@gmail.com.




У 2019 годзе ў нашай краіне пройдзе чарговы перапіс насельніцтва. Сярод пытанняў (нумар 12 і 13), на якія трэба будзе адказаць падчас перапісу, будзе і пытанне пра Вашую родную мову. Адказ мае не толькі сімвалічнае, але і практычнае значэнне.





*Леанід Лаўрэш*

# Бальтазар Калясінскі, лідскі паўстанец і сябар Тараса Шаўчэнкі

*(Заканчэнне. Пачатак у папяр. нумары.)*

Першы злева на малюнку (сядзіць) вядомы рэвалюцыянер Бранілаў Залескі (потым мастак і гісторык).

Чацвёрты злева - Тамаш Вернер, Шаўчэнка называў яго на ўкраінскі лад Хамой. З ім паэт паўтара года дзяліў цяжкасці экспедыцыі на Аральскае мора.

Шосты злева - Людвік Турно, пляменнік вядомага рэвалюцыйнага дзеяча 1830-1831 гг. генерала Дэмбінскага, а бацька Людвіка - палкоўнік Зыгмунт Турно таксама прымаў удзел у гэтым паўстанні. Людвік Турно быў сасланы шарагоўцам у Арэнбург у 1846 г.[15] Турно разам з Залескім і Шаўчэнкам летам 1851 г. прымаў удзел у паходзе на Каратаў для пошуку вугалю. Пазней, знаходзячыся ў Новапятроўскім умацаванні, украінскі паэт працягваў цікавіцца лёсам таварыша і цёпла пра яго ўзгадваў[16].

Трэба дадаць, што ў Арэнбургу Шаўчэнка сцісла пазнаёміўся і з Зыгмунтам Серакоўскім, які ў 1863 г. быў пакараны смерцю.

Бальтазар Калясінскі ў стэпах сумаваў па радзіме, па жонцы і маленькіх дзецях, якіх не бачыў з пачатку 1848-га. Жонка не переставала пісаць просьбы аб памілаванні высланага мужа. Шаўчэнка спачуваў думкам сябра, яго трывогам. Пачуцці мужа і бацькі яму, адзінокаму і бяздомнаму, тым не менш былі блізкія, зразумелыя[17].

У красавіку 1849 г. Калясінскі атрымаў перавод у 4-ты лінейны батальён. У 1853 г. удзельнічаў у штурме Ак-Мячэці, праявіў гераізм, атрымаў раненне і "за вызначэнне" атрымаў чын калежскага рэгістратара, які ён ужо меў дванаццаць гадоў таму. Аднак і пасля ўсіх "вызначэнняў" Калясінскі, ужо чыноўнік канцылярыі губернатара, заставаўся пад паліцэйскім наглядам, без права пакінуць сваю няволю. Волю ён атрымаў толькі ў 1857 г.[18]

Зоф'я Кавалеўская гэтак напісала пра вяртанне Бальтазара Калясінскага: *"Пасля дзесяці гадоў, згодна з маніфестам цара Аляксандра ІІ, Калясінскі быў вызвалены ад жаўнерскай службы і прызначаны камендантам* (насамрэч дробным чыноўнікам - *Л. Л.*) *Арэнбургскіх стэпаў, якія былі пад камандаваннем губернатара Пяроўскага, бацькі Соф'і, пазней вядомай рэвалюцыянеркі. ... У 1860 годзе Бальтазар Калясінскі знаходзіўся ў Краі, дзе выспяваў новы выбух. Як стары баявы конь, пачуўшы гук трубы, што грае пабудку, кідаецца ў шэрагі, так і Бальтазар Калясінскі, прасякнуты патрыятычнай атмасферай, рваўся да дзеяння.*

*Па вяртанні дадому Калясінскаму прапанавалі месца суддзі ў Лідзе, а пасля сялянскай рэформы - "міравога пасрэдніка". Гэта была вельмі адпаведная пасада для яго дзейнасці. Калясінскі мог зблізіцца з людзьмі і ўплываць на іх. У гэтым быў практычны сэнс, бо Бальтазар мог паўплываць на розум селяніна і выклікаць яго павагу. Трэба дадаць, што грунт на якім ён працаваў, з'яўляўся больш жыватворным, чым дзе-небудзь у іншым месцы"* [19].

Трэба адзначыць, што бяздарнае кіраванне цара Мікалая І з яго муштрай, беззаконнем і непавагай да чалавечага жыцця, як і належыць, закончылася поўнай паразай у Крымскай вайне і смерцю цара, якая была вельмі падобная на самазабойства. Новы цар, Аляксандр І, каб пазбегнуць сацыяльнага выбуху, быў прымушаны пачаць рэформы, першай з якіх была адмена прыгоннага права - страшнага рускага прыгону які трымаў у стане "белых" рабоў большасць насельніцтва імперыі. Міравыя пасрэднікі як раз і праводзілі вызваленне сялян з прыгоннага рабства, і таму на гэту пасаду, звычайна, абіраліся лепшыя прадстаўнікі шляхты.

Пра павагу да Калясінскага з боку грамадскасці сведчыць тое, што ўжо ў 1861 г. мы бачым яго на пасадзе засядацеля павятовага суда[20], а ў 1861 г. ужо міравым пасрэднікам 1-га ўчастка[21]. Менавіта ён разам з іншымі пасрэднікамі пачаў праводзіць рэформу, у выніку якой сялян вызвалілі з прыгону. Разам з Калясінскім, міравымі пасрэднікамі ў той час на Лідчыне, з'яўляліся: былы адстаўны карнет Юльян Лясковіч (расстраляны ў Вільні ў 1863 г., пра гэта далей), адстаўны паручнік Аляксандр Брахоцкі, калежскі сакратар Яраслаў Табенскі (будзе арыштаваны і высланы ў Пермскую губерню), Станіслаў Путкамер (сын Марылі з Верашчакаў)[22].

У падзеях, які папярэднічалі паўстанню, падчас вялікага народнага ўздыму, прымала ўдзел і сям'я Бальтазара Калясінскага, у 1861 г. яго жонка Марыя-Стэфанія была заўважаная разам з дачкой у Вільні падчас спеваў *"абуральным гімнаў у касцёле"* [23].

Непрыемныя рэчы здарыліся ў сям'і Каслясінскіх у 1862 г. У ноч з 17 на 18 мая раптоўна памерла цешча Калясінскага Юзэфа Більдзюкевіч. Следства на пачатку чамусьці палічыла, што адбылося атручэнне мыш'яком і западозрыла ў справе Бальтазара Калясінскага, які як быццам знаходзіўся з цешчай у дрэнных стасунках. У якасці непасрэднага выканаўцы падазраваўся кухар Дамінік Трацяк (меў 33 гады) і пакаёвая дзеўка Дамініка Кудзека (мела 17 гадоў) - абодва сяляне маёнтка Сядзеймы. Следства не даказала віну Калясінскага і Дамінікі Кудзекі, але Трацяк быў асуджаны. Загадкавая справа - чаму кухар атруціў сваю гаспадыню.

Бальтазар Калясінскі быў адным з ініцыятараў падрыхтоўкі паўстання 1863 г. Як міравы пасрэднік, Калясінскі карыстаўся вялікай павагай сялян і меў на іх уплыў. Перад пачаткам паўстання назіраўся грамадскі ўздым, ішло шырокае абмеркаванне праблем, і акрамя цукерні Андрушкевіча ў Лідзе месцам сходаў была лідская хата Бальтазара Калясінкага. На сходах абмяркоўвалася і будучае паўстанне і ўздел у іх прымалі Геншаль з Валдацішак, Тышкевіч з Жырмун, Станіслаў Путкамер і многія іншыя. Актыўна ўдзельнічаў у падрыхтоўцы паўстання і стрыечны брат ссыльнага - Станіслаў Калясінскі.

Бальтазар Калясінскі быў арыштавана яшчэ пачатку паўстання - быў абгавораны Юльянам Альбертам Лясковічам і *"пайшоў пад ключ"* [24]. Кавалеўская цікава апісвае арышт паўстанца і падзеі вакол яго: *"Улада даўно ўжо мела на яго вока, але не спяшалася з арыштам, бо Калясінскі меў вялікую павагу ... такі крок мог выклікаць вялікае хваляванне, адпор або якія-небудзь іншыя праблемы. Хітры ваенны начальнік павета вырашыў узяць яго падманам.*

*... калі ў Калясінскага сабралася кола знаёмых, Казаналі*[25] *прыслаў капітана Баранава з патрабаваннем неадкладна прыбыць у канцылярыю. Бальтазар Калясінскі адмовіўся, патлумачыўшы гэта тым, што ў яго госці. Аднак, калі афіцэр дастаткова настырна паўтарыў загад, Калясінскі страціў цярпенне, і буркнуў: "Пану Казаналі дарога да мяне такая ж роўная, як і мне да яго." Афіцэр пайшоў, а Казаналі вырашыў дзейнічаць па-іншаму. Ён паведаміў арыштаванаму Юльяну Лясковічу, што той будзе хутка высланы ў Расею, аднак, калі хоча, то можа паклікаць каго-небудзь са знаёмых у Лідзе, напрыклад Калясінскага, і перадаць яму пад апеку сваю сям'ю і інтарэсы.*

*Хуткая, бясправная дэпартацыя, такая частая ў тыя часы, не здзіўляла ўжо нікога. Таму вестачка прысланая з вязніцы не здзівіла Калясінскага і, прыгнечаны лёсам Лясковіча, ён тут жа пайшоў да яго, пакінуўшы дом і гасцей на свайго крэўнага Станіслава Калясінскага. Як толькі Бальтазар пераступіў парог вязніцы, яго атачылі ахоўнікі і замкнулі на ключ ў камеры.*

*Занепакоены доўгай адсутнасцю родзіча Станіслаў Калясінскі выбег у горад каб даведацца, што здарылася. Усе ўжо ведалі пра арышт Бальтазара. У любую хвіліну мог пачацца перартрус у яго доме ... Там маглі быць дакументы якія кампраментавалі іншых, нейкія сведчанні пра сувязь з камітэтам у Парыжы, грошы на патрэбы паўстання.*

*Знерваваны Станіслаў Калясінскі амаль што з боем дабіўся аўдыенцыі ў Казаналі, які не хацеў яго адразу прыняць. Калясінскі прасіў сустрэчу .... Казаналі яму адмовіў, і толькі пасля таго, як Калясінскі даваў, што ў кузена як "міравога пасрэдніка" могуць захоўвацца дзяржаўныя грошы, і што яны могуць страціцца падчас вобшуку, за што Казаналі будзе асабіста адказваць, вайсковы начальнік памякчэў і выклікаўшы афіцэра, загадаў суправаджаць Станіслава Калясінскага да вязніцы і прысутнічаць пры размове братоў.*

*"Казённые деньги" зусёды давалі шанец на поспех сярод чыноўнікаў. Калі па дарозе да турмы ў казармах, дзе сядзеў Бальтазар Калясінскі, міналі рэстаран Андрушкевіча*[26], *Станіслаў прапанаваў афіцэру, які ішоў разам, невялікі сняданак.*

*За кілішкам шчыра разгаварыліся. Афіцэр вярнуўся з Каўказа і сімпатызаваў тутэйшым, з якімі там пазнаёміўся. Ён дазволіў братам спатканне сам-насам, без сведак. Потым Станіслаў змог зайсці ў кватэру брата і прагледзець паперы. Яго эскорт трымаўся каля дзвярэй, на адлегласці. Станіслаў забраў усё, што трэба, і выехаў з Ліды. Вольна ўздыхнуў толькі за горадам.*

*У хуткім часе Казаналі выслаў усіх арыштаваных у Вільню, дзе яшчэ кіраваў Назімаў. У палітычнай атмасферы яшчэ адчуваліся лагодныя плыні. Старшынём следчай камісіі ў той час быў Вісяліцкі, чалавек адносна добры. Судовае следства пра неабачлівыя словы Альберта Лясковіча цягнулася даволі доўга, потым Альберт адмовіўся ад іх, быў апраўданы і выйшаў на волю. У горадзе казалі, што атрымаць волю арыштаваным дапамог такі выпадак: сярод чальцоў следчай камісіі быў генерал Беклямішаў, знаёмы Бальтазара Калясінскага з часоў яго выгнання і службы ў "вечных салдатах". У тыя часы ён быў маёрам і начальнікам Бальтазара. Падчас бою за Ацк-Мячэць куля адарвала Беклямішаву нагу, і ён загінуў бы, каб не Бальтазар, які, узваліўшы камандзіра на плечы, вынес яго пад градам куль у бяспечнае месца. Калі арыштаваныя сталі перад следчай камісіяй, Беклямішаў пазнаў Бальтазара, сардэчна яго прывітаў і прадставіў (суддзі) як свайго выратавальніка, чым дапамог Бальтазару і яго таварышам"* [27].

Трэба заўважыць, як не надта ўпэўнена адчувалі сябе ў горадзе расейскія ўлады, бо, каб арыштаваць Калясінкага, ім прыйшлося выдумляць розныя гісторыі, каб выманіць яго ў турму.

Падчас вышэйапісанага суда 6 (18) траўня ў Вільні, Лясковіч сведчыў, што свае першыя паказанні, дадзеныя падчас першапачатковага следства, ён пацвярджае, але іншыя, якія кампраментавалі перад уладамі Бранілава Нарбута, міравога пасрэдніка Калясінскага, Вільгельма Грабоўскага і абшарніка Гадычэўскага - адвяргае, бо яны былі вымушаныя гвалтам праз *"насільны загад і прымус"* палкоўніка Казаналі, які казаў, што яму ў гэтым прысягалі, і што *"я мушу абавязкова напісаць гэтак, як ён пачаў мне дыктаваць"*. Альберт Юльян Лясковіч не адыгрываў значнай ролі ў паўстанні, з'яўляўся звычайным удзельнікам і пасля суда быў вызвалены, аднак потым зноў па загадзе ўжо Мураўёва арыштаваны і пакараны смерцю ў Вільні разам з ксяндзом Ішорам з Жалудка *"в пример и страх другим"*[28]. Сярод іншых парэшткаў ахвяр 1863 г., знойдзеных нядаўна на Замкавай гары ў Вільні, знайшліся і парэшткі Лясковіча.

[15] Владич Л. История одного рисунка // Огонек № 20 (1405), 16 мая 1954. С. 27.
[16] Владич Л. История одного рисунка ... С. 27.
[17] Большаков Леонид. Быль о Тарасе. Кн. 3. Москва - Оренбург, 1993. С. 118.
[18] Большаков Л. Н. Оренбургская Шевченковская энциклопедия. ... С. 168.
[19] Kowalewska Zofia. Dzieje powstania lidzkiego ... S. 17-18.
[20] Памятная книжка Виленской губернии на 1861 г. Вильно, 1861. С. 112.
[21] Памятная книжка Виленской губернии на 1862 г. Вильно, 1862. С. 118.
[22] Тут трэба адзначыць прыкры момант. Нядаўна мне нагадалі, як адзін з лідскіх "краязнаўцаў" гэтак патлумачыў прычыны паўстання 1863 г. на адным з сайтаў: "Мелкие шляхтичи остались без крестьян-рабов и подняли восстание." (гл: http://www.lida.info/imeniya-lidskogo-uezda-imenie-radivonishki/). Зразумела, што сапсаваны і слабы розум не можа прааналізаваць факты і зрабіць адпаведныя высновы.Таму, грунтуючыся на собскіх адносінах да жыцця, на тым, як паступіў бы ў дадзеным выпадку ён сам, піша лухту - але разумную па яго меркаванні. Можна толькі парадзіць на зразумелай для яго мове: "Суди, дружок, не свыше сапога!".
[23] Белецкий, А.В. Сборник документов музея гр. М.Н. Муравьева. Вильна, 1906. Т. 1. С. 158., 257.
[24] Kowalewska Zofia. Dzieje powstania lidzkiego ... S. 21., 36.
[25] Ці Казаўлі, вайсковы начальнік Ваўкавыскага і Лідскага паветаў палкоўнік.
[26] Знакамітая цукерня Андрушкевіча, знаходзілася на рагу вуліц Віленскай і Каменскай. - *Л. Л.*
[27] Kowalewska Zofia. Dzieje powstania lidzkiego ... S. 37-38.
[28] http://kalinouski.arkushy.by/library/rok_1863/comment/101.htm

Леанід Лаўрэш

# Бальтазар Калясінскі, лідскі паўстанец і сябар Тараса Шаўчэнкі

Але покуль разам з Лясковічам выпусцілі і ўсіх астатніх, у тым ліку і Калясінкага. Бальтазар вярнуўся ў Ліду і зноў энергічна ўзяўся за працу. Яго арышт разарваў многія ніткі ў папярэдне старанна сплеценай павуціне, аднак паводзіны аддзела Нарбута, які ўжо храбра ваяваў, уздымалі ў людзях надзею і ўмацоўвалі веру ў будучыню.

З тэксту Зоф'і Кавалеўскай бачна, што Бальтазар Калясінскі працаваў з старшынямі валасцей. У Дакудаўскай валасці старшыня Кохан меў напагатове некалькі соцень людзей, пераважна праваслаўных з ранейшых уніятаў. Чакалі толькі выкліку. У Тарноўскай гміне, прыведзены пад прысягу Каляскінскім старшыня Марцін Якубоўскі, стварыў першую сярод сялян арганізацыю і нават прыгатаваў трошкі зброі. Планавалася, што сяляне паўстануць, калі падымецца Ліда[30].

Тым часам у Лідзе пачалі фармаваць аддзел, які павінен быў ісці на дапамогу Людвіку Нарбуту. Планаваўся збор розных груп 11 красавіка на зборным пункце ў вёсцы Аўсядава, якая належала Зянкевічу (некалькі вёрст на поўнач ад Ліды). Тут яны павінны былі атрымаць зброю, амуніцыю, правіянт, абмундзіраванне, грошы і, злучыўшыся ў адно цэлае, як Лідскі аддзел, вырушыць у Дубічы пад камандаванне Нарбута. Непасрэдна з Ліды, добраахвотнікі збіраліся ў маёнтку Клепцаўшчына[31], якім ў той час валодалі Калясінскія, каб адкуль выправіцца ў Перапецкі лес. З гэтага месцаў Станіслаў Калясінскі павёў іх праз Раслякі, млын на Паўстаўшчыне, каля фальварка Адамовіча Малэйкаўшчына да Аўсядава. Па дарозе інсургенты сустрэлі семярых казакаў, якіх ледзь не застрэлілі, але казакі павярнулі ў другі бок. У Аўсядаве сабралася шмат добраахвотнікаў з Ашмянскага, Наваградскага і Лідскага паветаў. Але з-за здрады, выправіцца да Нарбута не ўдалося[32].

Улетку 1863 г. па загадзе Мураўёва разам з іншымі Бальтазар Калясінскі быў зноў арыштаваны і без суда, па *"по распоряжению Главного Начальника Северо-Западного края"*, г. зн. Мураўёва, 5 сакавіка 1864 г. высланы пад нагляд паліцыі ў Кастрамскую губерню, а ягоная маёмасць секвестравана. У Расіі жыў у Калагрыве.

Праз шмат гадоў ссылкі Бальтазар Калясінскі атрымаў правы вярнуцца з умовай пражывання ў Варшаве. Кавалеўская пісала: *"... едучы праз Пскоў, ён выпадкова сустрэўся з Жамчужнікавым, тагачасным пскоўскім саноўнікам, які ў часы, калі Калясінскі займаў нейкую пасаду ў Арэнбургскіх стэпах, быў там дробным чыноўнікам і яго падначаленым. Жамчужнікаў захаваў да Бальтазара самыя добрыя пачуцці і, калі даведаўся, што вяртанне ў Варшаву не радуе Калясінскага, прапанаваў яму добрую пасаду ў Пскове, а калі быў прызначаны на пасаду губернатара Вільні, зрабіў магчымым вяртанне Бальтазара ў Ліду. Дзякуючы гэтаму, двойчы ссыльны здолеў нарэшце ўдыхнуць паветра радзімы і мець магчымасць злажыць свае косці ў зямлі бацькоў"* [33].




***Помнік Бальтазару Калясінскаму ў Вільні. Характэрная дэталь. На заднім плане помнік Канегундзе Янчэўскай. Імя Канегунда (у розным напісанні Кунегунда, Канігунда і г.д.) было даволі папулярным у тутэйшых краях. А то прывыклі, што ў беларусаў - толькі Ганны ды Алесі.***

Трэба ўдакладніць, што А.М. Жамчужнікаў ніколі не быў віленскім губернатарам, але ён стаў пскоўскім віца-губернатарам і, верагодна, маючы гэтую пасаду, дапамог Калясінскаму. Жамчужнікаў, з 1850 г. пасля ўніверсітэта, пачаў службу пры Арэнбургскім генерал-губернатары графе В. А. Пяроўскім і служыў там да 1862 г. З 1870 па 1874 гг. займаў пасаду пскоўскага віца-губернатара і атрымаў чын сапраўднага стацкага саветніка. Цікава, што А. М. Жамчужнікаў - вельмі вядомы і пасапраўднаму таленавіты пісьменнік і паэт, адзін са стваральнікаў Казьмы Пруткова!

Не дарэмна з Бальтазарам Калясінскім сябравалі Тарас Шаўчэнка і Аляксандр Жамчужнікаў. Гэта магло быць толькі, калі лідзянін быў высокаадукаваным чалавекам і цікавым сябрам творчых людзей. А можа і сам нешта пісаў, але пры яго бурным жыцці не змог надрукавацца.

Кавалеўская піша: *"... пасля вяртання з ссылкі ... сямейныя повязі Калясінскага былі парушаны. Сваё жыццё ён скончыў у самоце. З жонкай амаль не сустракаўся. Меў адну дачку, якая выйшла замуж за Нарымскага, і адзіную ўнучку, у замустве - спадарыню Умястоўскую. Бальтазар Калясінскі памёр у Вільні, дзе пасля жыццёвых прац спачыў на Бернардынскіх могілках. Гэта быў адзін з выбітных людзей свайго часу. Чалавек ідэі і глыбокага патрыятычнага духу"* [34]. Ён і насамрэч пахаваны на віленскіх Бернардынскіх могілках, і інфармацыя пра яго пахаванне на могілках у Росах, якую можна сустрэць у розных крыніцах - памылка. Вядома таксама, што Бальтазар Калясінскі меў яшчэ двух сыноў - Юрыя і Ігната, пра якіх мы нічога не ведаем.

А яго стрыечны брат Станіслаў Калясінскі яшчэ жыў у 1918 г., дом Станіслава стаяў за Лідскім фарным касцёлам.

Трэба закончыць артыкул гарадской легендай, якая з'явілася пасля другой ссылкі Калясінскага. Згодна з гэтай легендай, цудадзейны абраз Маці Божай, які як быццам зазвінеў падчас першага арышту Бальтазара, жонка аддала ў Лідскі касцёл. Паводле падання гэты абраз забраў у плябанію ксёндз Карповіч. Аднак абраз не ўпадабаў новае месца і звінеў без перапынку над галавой ксяндза. Карповіч вымушаны быў яго зняць. Легенда гаварыла, што абраз быў знішчаны. Людзі перасталі хадзіць у касцёл, бо верылі, што сваім звонам абраз засцерагаў пра небяспеку[35]. Справа ў тым, што ксёндз-дэкан Карповіч[36] адносіўся да той нешматлікай групы ксяндзоў, якія па заклiку рускага урада пачалі рабіць казанні ў касцёле на рускай мове, а наўзамен урад дазволіў ім бескантрольна ўзбагачацца і красці.

---

[29] Пасля паўстання, Кохан з Дакудаўскай валасці здолеў пазбегнуць пераследу ўладаў.

[30] Марцін (ці Севярын?) Якубоўскі з Тарноўскай гміны, быў асуджаны, як пісала Кавалеўская, *"з-за занадта шчырае вызнанне Кашыца ... У Якубоўскага захоўваліся розныя дакументы, зброя і грошы. Аднак меў талент зручна ўхіліцца ад падазрэння, ўзгаднiўшы ўсё з калегамі бо меў на іх неабмежаваны ўплыў. Калі паліцыя прыбыла каб арыштаваць Якубоўскага, ён не страціў розум і здолеў спаліць усе дакументы, аднак схаваць зброю яму не хапіла часу. Пад час следства не здрадзіў і нікога не выдаў. З усёй сям'ёй быў высланы ў Табольскую губерню, дзе ў выгнанні і памёр у 1873 годзе. Ледзь закрыў вочы, як прыйшоў дазвол на вяртанне ў Край. Сям'я скарысталася з гэтага дазволу бо сумавала па Айчыне. Сыны памерлага Якубоўскага - Юзаф і Ігнат былі абавязаны пісьмова пацвердзіць, што ніколі не будуць мець прэтэнзій да спадчыннай зямлі бацькі, якая была адабрана ў сям'і за ўдзел у паўстанні.*

*Маладых Якубоўскіх як леснікоў прыняла ахоўваць свае лясы спадарыня Красіцкая і, маючы жаданне хоць неяк кампенсаваць нанесеную крыўду, падаравала 30 моргаў зямлі"*. - цыт. па: *Kowalewska Zofia. Dzieje powstania lidzkiego ... S. 72-73.*

[31] Фальварак каля в. Перапечыца - Л. Л.

[32] Kowalewska Zofia. Dzieje powstania lidzkiego ... S. 39., 40-41.

[33] Там жа. S. 73.

[34] Там жа.

[35] Там жа.

[36] Кс. **Яўстах Карповіч**, сын медыка з Жалудка, нарадзіўся ў вялікай сям'і, меў 6 братоў і 5 сясцёр. Вучобу пачынаў у Лідскай вучэльні. Пасля Ліды служыў у Ракаве. Быў крэатурай вядомых ксяндзоў-русіфікатараў Феліцыяна Бядрынскага і Пятра Жылінскага.

Кс. **Феліцыян Бядрынскі** - пралат, кандыдат тэалогіі (не блытаць з сучасным кандыдатам навук - *Л. Л.*), схаластык вялікага Віленскага кафедральнага капітула, законанастаўнік Віленскай мужчынскай гімназіі і Марыінскага вышэйшага жаночага вучылішча, кавалер ордэна Св. Станіслава 3 ст., узнагароджаны залатым наперсным крыжам і медалём за вайну 1853-56 гг. *(Гл: Памятная книжка Виленской губернии на 1875 год. Вильна, 1875. С. 136-137.)* Казалі, што пралат Бядрынскі пасля сваёй смерці пакінуў 180 тыс. рублёў, без уліку таго, што яго лёкай, скраў тады з яго камода 12 тысяч рублёў.

Кс. **Пётр Жылінскі** (1817-1887) - кіраўнік Віленскай дыяцэзіі, пралат-прапазіт кафедры (прапазіт - кіраўнік манаскага ордэна - *Л. Л.*), доктар тэалогіі, кавалер ордэна Св. Станіслава 1 і 2 ст. з імператарскай каронай, кавалер ордэна Св. Уладзіміра 3 ст., узнагароджаны наперсным крыжам, а таксама медалямі за вайну 1853-56 гг. і задушэнне паўстання 1863-64 гг. *(Гл: Памятная книжка Виленской губернии на 1875 год. Вильна, 1875. С.136.)*

Масолаў А.: "Некалькі пазней узвысіўся Вілейскі дэкан П. Жылінскі, чалавек яшчэ не стары, але цалкам сівы, трымаўся як каталіцкі біскуп - важна і стрымана. Ён атрымаў адзін з лепшых Віленскіх прыходаў - Вострабрамскі (каля гэтага касцёла - знакамітая брама з капліцай, пад'язджаючы да брамы па вузкай вуліцы, усе людзі здымалі шапкі) і прызначаны прэлатам". *Гл: Мосолов, А. Н. Виленские очерки 1863-1865 г. СПб., 1898. С. 117-118.*

Пётр Жылінскі, высвечаны ў святары ў 1842 г. Пробашч Віленскай Вастрабрамскай парафіі. У 1866 г. і ў 1868-1883 гг. адміністратар Віленскае дыяцэзіі ў сувязі з ссылкай у Вятку біскупа Адама Станіслава Красінскага. Выявіў сябе як актыўнага прыхільніка русіфікацыі касцёлу. У лістападзе 1869 г. падчас аўдыенцыі ў Аляксандра II заявіў, што з'яўляецца сапраўдным патрыётам Расіі і гатовы ўсім ахвяраваць дзеля Айчыны і цара. У 1871 г. даў дазвол на выданне расейскамоўнага катэхізма **"Рымска-каталіцкі катэхізіс пра паслухмянасць і адданасць прастолу і Айчыне нашай Расіі або тлумачэнне 4-й запаведзі Госпада, якая датычыць начальства і яго ўлады"**. У 1876 г. для паскарэння русіфікацыі касцёлаў былой Менскай дыяцэзіі падзяліў яе на два візітатарствы - Менскае і Слуцкае. Палітыка адміністратара выклікала рэзкі супраціў вернікаў і святароў. 23 студзеня 1878 г. Жылінскі атрымаў ліст ад кардынала Кацярыні, у якім Ватыкан абвінавачваў яго ў самавольным уступленні ў кіраванне дыяцэзіяй, а таксама ў спробах пазбыцца лепшых ксяндзоў і ўвесці ў касцёл рускую мову. Рым патрабаваў ліквідацыі пасадаў візітатараў. Напрыканцы 1882 г. Пётр Жылінскі выехаў у Ватыкан, дзе адрокся ад ранейшых "памылак" і атрымаў адпушчэнне грахоў.

*Навіны Германіі*

# Навошта нямецкі лекар збірае вялікую калекцыю старых гарадзенскіх паштовак

Сям'я Фелікса Варашыльскага, пенсіянера з нямецкага Гамбурга, выехала з Гародні ў 1945 годзе. Ён ніколі не жыў у "каралеўскім горадзе", аднак наведвае яго штогод і мае адну з самых вялікіх у свеце калекцый паштовак і здымкаў з выявай Гародні.

Феліксу Варашыльскаму 69. Па прафесіі ён кардыёанестазіёлаг - рабіў абязбольванне пацыентам падчас аперацый на сэрцы. Ужо два гады як на пенсіі.

Больш як 20 гадоў Фелікс збірае паштоўкі і фотаздымкі з горадам, дзе жылі тры пакаленні ягоных продкаў.

Ягоны прадзед Якуб працаваў на тытунёвай фабрыцы Шарашэўскага ў Гародні. Дзядуля, які меў у Гародні жаночую клініку, зваліпа-рознаму ў залежнасці ад часу: Герш, Грыгорый, Гжэгаж, Грыша.

Падчас апошняга свайго візіту ў Гародню Фелікс наняў кватэру на Замкавай вуліцы. Пабач у вайну было гета, дзе жылі ягоныя продкі.

- Я маю габрэйскае паходжанне. Але апошнім рэлігійным габрэем быў мой прадзед. Мой дзед хадзіў у сінагогу ўжо раз на год, мой бацька - зусім не, я таксама. Я выхаваны як паляк, на польскай літаратуры, не ведаю габрэйскай мовы, - кажа Фелікс.

Пасля вайны ягоная сям'я пераехала з Гародні ў Лодзь, бо Варшава была зруйнаваная. Праўда, ужо амаль 40 гадоў Фелікс жыве ў нямецкім Гамбургу.

- Нехта размясціў на фэйсбуку фота першых гарадзенскіх выпускнікоў пасля вайны. Там быў подпіс, што на здымку няма Віктара Варашыльскага, то бок майго бацькі. Экзамены былі ў траўні-чэрвені, а сям'я выехала ў сакавіку, - кажа Фелікс.

Пасля смерці бацькі ў 1996 годзе Феліксу прыйшла думка збіраць рэчы, звязаныя з Гародняй. Яго натхніў сябар-гісторык. Параіў збіраць старыя паштоўкі, бо на іх горад не змяніўся.

- Чаму Гародня? Бо я звязаны з Гародняй эмацыйна. Тут жылі тры пакаленні Варашыльскіх. Мяне зацікавіла, як гэта было, калі яны тут жылі ад пачатку ХХ стагоддзя, - тлумачыць Фелікс.

Тады ён пайшоў у бліжэйшую антыкварную краму ў Варшаве і знайшоў там некалькі паштовак з выявамі горада сваіх продкаў амаль задарма. Падумаў, што калекцыянаванне - добрае хобі, якое не патрабуе вялікіх выдаткаў. Тады ён не падазраваў, колькі яшчэ ў свеце можа быць старых выяваў Гародні - 40, 50 ці 100. За кароткі час яму ўдалося сабраць каля 600 гарадзенскіх паштовак.



- Памятаю, як 20 гадоў таму мяне хацелі пазнаёміць з галоўным гарадзенскім калекцыянерам паштовак Алесем Госцевым. У яго было 400 паштовак, якія ён збіраў гадамі, а я толькі быў пачаўшы.

Цяпер у калекцыі нямецкага лекара 2500-3000 паштовак. Усе пра Гародню. Толькі на адной з іх - санаторый у Друскеніках, які трымаў сябар дзядулі Варашыльскага.

- Цікава, што адбываецца на паштоўцы або што стала з паштоўкай. Хто рабіў здымак, што на гэтым здымку, што стала з гэтым домам, аб'ектам, пейзажам, як ён выглядае цяпер і чаму? Цяпер гэта самыя цікавыя аспекты майго калекцыянавання, - кажа суразмоўца.

Так ён паехаў за 30 кіламетраў ад Гародні ў вёску Парэчча, каб пашукаць інфармацыю пра адзін са сваіх здымкаў. Перад драўляным будынкам стаіць група дзяцей і група важных у міжваеннай Гародні асобаў, у тым ліку пробашч касцёла. Дакладнае імя святара Эдмунда Хлявінскага са здымка Варашыльскі адшукаў на мясцовых могілках. Што гэта за будынак і што з ім стала, магчыма, ён даведаецца, прыехаўшы іншым разам.

Здымкі і паштоўкі Варашыльскі называе найбольш прымітыўнай часткай сваёй калекцыі. Ён мае шмат кніг пра Гародню, у тым ліку выдадзеных у Еўропе. Гэта пераважна ўспаміны людзей, якія нарадзіліся або жылі тут, ураваліся ў вайну і раз'ехаліся па свеце.

Гарадзенскім гісторыкам Фелікс дазваляе выкарыстоўваць выявы са сваіх паштовак, звычайна задарма, толькі просіць падпісваць, што ўзята з ягонай калекцыі.

Фелікс чытае на польскай, ангельскай, расейскай, нямецкай, гішпанскай мовах. Са шведскай і нарвежскай мовах фрагменты, якія тычацца Гародні, дапамагаюць перакладаць сябры.

Паралельна лекар піша ўласную кнігу пра сваю сям'ю. Імкнецца, каб усе гісторыі былі задакументаваныя, а не прыдуманыя.

Да таго ж у ягонай калекцыі ёсць рэчы, звязаныя з Бацькаўшчынай - бутэлька, зробленая на гарадзенскай фабрыцы, або ўпакоўка ад гарадзенскіх цыгарэт з часу Першай усясветнай вайны.

Вяртаючыся да паштовак, калекцыянер тлумачыць, што важная не колькасць, а якасць здымкаў, рэдкасць экземпляраў. Банальныя паштоўкі можна купіць па нізкіх коштах, прыкладам, па 1 еўра, але потым іх цяжка прадаць.

Кошт залежыць і ад попыту. Да прыкладу, калі на здымку ёсць выява гарадзенскага моста, па якім ідзе цягнік, а на фоне відаць сінагога і рака, то прэтэндаваць на яго будуць тыя, хто цікавіцца Гародняй, мастамі, чыгункай, юдаікай і рэкамі.

- Кошт калекцыі нельга ацаніць. Можна толькі сказаць, колькі я за яе аддаў. Але я гэтага ня памятаю або не скажу, - усміхаецца Фелікс.

Кошт калекцыі ўвесь час расце. Здымкі, якія ён набываў некалькі гадоў таму па 2-3 даляры, сёння каштуюць па 20 даляраў і болей.

- Калі я пачынаў збіраць, то не разумеў, што паштовак нашмат больш, чым я ўяўляў, і што цягам кароткага часу яны страшна падаражэюць, бо ў пэўны момант пайшла мода на калекцыянаванне.

Раней, калі на eBay з'яўлялася паштоўка, мала хто хацеў яе набыць. Тады за яе можна было аддаць 1 нямецкую марку. Перасылка магла каштаваць больш, чым сама паштоўка. Амаль задарма можна было купляць цэлыя скрыні паштовак. Гэта змянілася гадоў 5 таму.

Калі на рынак увайшлі калекцыянеры з Беларусі і Расеі "з вялізнымі грашыма", цэны пайшлі ўгару. У гэтых краінах, па ацэнцы Варашыльскага, паштоўкі даражэйшыя, чым на Захадзе. Таму некаторыя робяць на гэтым бізнэс. Фелікс прызнаецца, што ў яго ёсць і вельмі дарагія паштоўкі. Некалі ён аддаў за паштоўку вялікія грошы ў той час, калі шпіталь, дзе ён працаваў, быў блізкі да банкруцтва.

- Я сядзеў дома і думаў, ці добра я зрабіў, што аддаў такія грошы за паперку, калі не маю пэўнасці, ці атрымаю наступны заробак. Што я тады жонцы скажу? - успамінае лекар.

У гэты момант пазваніў прадавец і ўдакладніў, ці сапраўды яму патрэбная тая паштоўка, бо знайшоўся кліент, які гатовы заплаціць удвая болей.




- Я тады падумаў, што нават калі сітуацыя пагоршыцца, то ёсць нехта, хто гатовы набыць маю паштоўку ў два разы даражэй, - кажа Фелікс.

Найстарэйшая паштоўка ў калекцыі Варашыльскага - каля 1870 года, яшчэ без малюнка, а найноўшая - 1945, пазнейшых ён не збірае. Немцы ў вайну выдалі толькі дзве кароткія серыі - перадрукі старых паштовак.

Геаграфія шырокая: Еўропа, Аўстралія, Афрыка, Амерыка. Гэта звязана з тым, куды даехалі гарадзенцы. Туды ім і пісалі крэўныя.

- Найменей паштовак з Гародняй - у Гародні, - кажа Фелікс.

У ягонай калекцыі каля 40 паштовак спадара Наркевіча, калекцыянера пачатку ХХ стагоддзя, які працаваў у банку. Наркевіч рассылаў гарадзенскія паштоўкі па ўсім свеце ўзамен на карткі з тых мясцін.

Варашыльскі мяркуе, што ў яго адна з дзвюх самых вялікіх калекцый з гарадзенскімі паштоўкамі. Другая - у менскага калекцыянера. Розніца калекцый у тым, што ў Фелікса болей нямецкіх паштовак, а ў менчука - царскіх часоў.

Паштоўкі захоўваюцца ў пластыкавых кашульках у скрынях па 600. Кожная мае свой нумар. Існуе электронная база, якая дапамагае хутчэй знайсці патрэбную. Напрыклад, тыя, нумары якіх пачынаюцца на "18", належаць канкрэтнаму выдавецтву.

Амаль усю сваю калекцыю пенсіянер ужо перадаў сыну Якубу, але працягвае збіраць. Кажа, што траціць на пошук новых экземпляраў усяго паўгадзіны ранкам. Пра цікавыя знаходкі паведамляюць і сябры-калекцыянеры.

Варашыльскі прызнаецца, што з дзяцінства нешта калекцыянаваў: каменьчыкі, ракавінкі, значкі, вінныя бутэлькі. Але ранейшыя калекцыі не былі такімі важнымі.

На пытанне, навошта яму гэта ўсё, Фелікс адказвае словамі з фільма пра аднаго калекцыянера:

- Каб не забыцца. Каб захаваць рэчы з мінулага, каб дробязі з калекцыі пакінулі памяць пра тое, што было.

***ТТ (Радыё Свабода).***

*Рэдактар Станіслаў Вацлававіч Суднік*

***Заснавальнік:*** ТБМ імя Францішка Скарыны.
***Пасведчанне аб рэгістрацыі*** № 908 ад 18 снежня 2009 г. выдадзена Міністэрствам інфармацыі Рэспублікі Беларусь.
***Адрас рэдакцыі:*** 231293, Лідскі р-н, в. Даліна.
***Адрас для паштовых адпраўленняў:*** 231282, г. Ліда-2, п/с 7.
***E-mail:*** naszaslowa@tut.by



**http://nslowa.by/ http://naszaslowa.by/**
**http://pawet.net/ http://kamunikat.org/**
**http://tbm-mova.by/ http://belkiosk.by/**



Газета надрукавана ў Лідскай друкарні.
231300, г. Ліда, вул. Ленінская, 23.
Выдавец: Установа інфармацыі "Выдавецкі дом ТБМ".
Газета падпісана да друку 17.06.2019 г. у 17.00. Замова № 1193.
Аб'ём 2 друкаваныя аркушы. Наклад 1500 асобнікаў.
***Падпісны індэкс:*** 63865.
***Кошт падпіскі:*** 1 мес.- 2,37 руб., 3 мес.- 7,11 руб.
***Кошт у розніцу:*** па дамоўленасці.